№ 13 (1576)
Чацвер , 23 студзеня 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Кошт свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб Колас**

# Народная Воля

## Надвор'е

Сёння ўдзень захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, месцамі невялікія ападкі, слабы галалёд, на асобных участках дарогі галалёдзіца. Вецер паўднёва-ўсходні, 6—11 м/с, па ўсходзе парывы да 15—18 м/с. Тэмпература паветра ў Віцебску — 0...-2, Гомелі, Магілёве, Мінску — каля 0, Гродне, Брэсце — 0...+2.

У наступныя двое сутак чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е. 24-га на большай частцы тэрыторыі ападкі, туман, слабы галалёд, на дарогах галалёдзіца, 25-га — месцамі невялікія ападкі, на дарогах галалёдзіца. Вецер няўстойлівы, 2—7 м/с. Тэмпература паветра ўначы 0...-5, 25-га пры праясненнях да -8, удзень -2...+3.



**ПУЛЬС**

## Дуглас Дэвідсан: ЗША заклікаюць беларускія ўлады спыніць ушчамленне недзяржаўных СМІ

*Заява намесніка кіраўніка місіі ЗША пры Пастаянным савеце АБСЕ Дугласа Дэвідсана распаўсюджана амерыканскім пасольствам у Мінску 21 студзеня.*

"Закрыццё газеты "Местное время" — прыклад злоўжыванняў, накіраваных на падаўленне незалежных СМІ ў Беларусі", — зазначае Дэвідсан. Нагадаем, што газета "Местное время", заснаваная ў лістападзе 2002 года, паспела выйсці з друку толькі тры разы і была ліквідавана ў снежні мінулага года па прычыне таго, што ўладальнікі выдання няправільна зарэгістравалі юрыдычны адрас.

"ЗША заклікаюць беларускія ўлады дазволіць гэтай газеце і іншым СМІ стаць незалежным голасам грамадзян краіны", — гаворыцца ў заяве.

**Вольга ЛАПІКАВА.**

## Промышляли врывчаткой

*В Бобруйске сержант контрактной службы Андрей Михолап "погорел" на продаже взрывчатых веществ.*

На одном из воинских полигонов в Слуцком районе во время подчистки территории он обнаружил, привез домой и припрятал пять с половиной килограммов взрывчатого вещества гексогена.

Через год уже на полигоне в Бобруйском районе, где уничтожались боеприпасы, он прихватил себе десять тротиловых шашек и другие боеприпасы. Все эти взрывчатые вещества он пытался продать. К этому опасному бизнесу он привлек своего бывшего сослуживца, уволенного в запас, Дмитрия Агеенкова. А тот своих знакомых — братьев Балтушкиных.

Во время сбыта взрывчатых веществ вся компания была задержана с поличным. За незаконное хранение, транспортировку и продажу взрывчатых веществ Андрей Михолап осужден на пять лет лишения свободы с отбытием наказания в колонии усиленного режима, с лишением воинского звания сержант. За участие в опасном бизнесе жители Бобруйска Дмитрий Агеенков, Сергей Балтушкин получили по два года ограничения свободы, Александр Балтушкин — полтора года. Вся тройка будет отбывать наказание с привлечением к труду на стройках народного хозяйства.

**Николай НАЗАРОВИЧ, БелТА.**

**ЕВРОПЕЙСКИЙ ОПЫТ**

## Чехи избирают нового президента

В предстоящую пятницу, 24 января, чехи продолжат процедуру избрания нового президента страны. В один тур избрать главу государства не получилось. А нынешний президент, легендарный Вацлав Гавел, которого называют совестью нации, отработав два положенных срока по пять лет, 2 февраля покидает Пражский Град. В Чехии никому и в голову не приходило какимто образом изменить Конституцию и продлить полномочия действующего главы государства. Закон есть закон. И к нему в стране относятся уважительно.

В Чешской республике главу государства избирает парламент, куда можно попасть только по партийным спискам. А вот в верхнюю палату — сенат — выборы прямые. Интересно, что раз в два года треть сенаторов (полный состав 81 человек) обновляется.

Чтобы стать президентом, претенденту по чешскому законодательству предстоит пройти довольно сложную процедуру. Поэтому в первом туре голосования, состоящем из трех раундов, неделю тому назад избрать президента не удалось. Можно напомнить, как это проходило. В первом раунде каждый из четырех кандидатов стремился получить большинство голосов в сенате (необходимый минимум — 41 голос) и в парламенте (101 голос ). Во втором раунде необходимо было получить большинство голосов, но уже не от избранного количества депутатов, а от присутствующих в залах в день голосования. Но и это обстоятельство не помогло выявить сильнейшего. Тогда в третьем раунде претендентам предлагалось набрать большинство голосов от общего количества парламентариев в обеих палатах. Но и в этот раз никто из квартета не достиг желанного рубежа. Трехступенчатые выборы оказались фактически безрезультатными и поэтому, согласно Конституции, был назначен второй тур. По закону в нем уже могут участвовать и новые кандидаты. По нашим данным, среди них появится экс-премьер Милош Земан. Его политический бомонд Минск хорошо помнит. В бытность премьером Земан нагрянул в Минск с визитом в составе делегации Социнтерна. Приехал он к единомышленникам социал-демократам. С главой правительства Чехии очень хотел встретиться Лукашенко, которого, как известно, высокие персоны игнорируют. Но гость поставил условие — он готов побеседовать, но только в компании с лидером Белорусской социал-демократической партии (Народная Грамада) Николаем Статкевичем. Такое условие принято не было. И Милош Земан, сделав на прощанье несколько громких заявлений о белорусской диктатуре, вернулся домой.

Некоторые наблюдатели уже тогда говорили, что свой вояж в Минск чешский премьер хотел использовать в пропагандистских целях на будущих президентских выборах. Трудно сказать, насколько это поможет Земану 24 января. Хотя после Пражского саммита НАТО, куда так стремился попасть и не попал белорусский лидер, отношения между Минском и Прагой оказались в более чем прохладном состоянии. Беларусь даже понизила до уровня Временного поверенного статус главы своей дипмиссии. Впрочем, чешскую дипмиссию в Беларуси посол никогда и не возглавлял. Так что сегодня они на одном уровне.

Не исключено, что и второй тур выборов президента Чехии может закончиться безрезультатно, ибо количество туров законодательством страны не ограничивается. И потому может так получиться, что к моменту истечения срока действующего президента Гавела Чешская республика окажется без нового президента. Но в этом чехи не видят для себя ничего страшного. Конституция предусматривает в таком случае разграничение президентских функций между главой правительства и парламентом. Благо президентские полномочия в Чехии не носят исключительного и всеобъемлющего характера.

Возможная ситуация, когда выборы парламентом станут перманентными, видимо, усилит позиции тех, кто предлагает внести изменения в Конституцию и сделать выборы президента страны прямыми. Но такие изменения потребуют, как минимум, полгода. Так что в самом затянувшемся варианте чехи смогут получить нового президента не раньше осени.

**Владимир ГЛОД, Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ.**
**Фото www.nato.int**



## Правал

*На 24012 дэпутацкіх мандатаў ёсць 26567 прэтэндэнтаў. Такія лічбы назвала ўчора на прэс-канферэнцыі старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына.*



На мой погляд, дадзеныя лічбы сведчаць пра поўны правал выбарчай кампаніі ў мясцовыя органы ўлады. І сапраўды, што гэта за выбары, калі на адно месца, па сутнасці, прэтэндуе адзін чалавек. І хаця Лідзія Ярмошына шмат казала пра тое, што гэта толькі сярэдняя лічба, як сярэдняя тэмпература па шпіталю, што ў буйных гарадах прэтэндэнтаў значна больш, але ж мне падаецца, што ў дадзеным выпадку лічбы больш красамоўныя, чым розныя словы.

Па гарачых слядах паспрабуем зразумець, чаму ж так адбываецца. Перш-наперш, як мне падаецца, сёння мы пажынаем усё тое, што мелі з таго самага часу, як да ўлады ў Беларусі прыйшоў Аляксандр Лукашэнка. Яго настойлівае падкрэсліванне, што толькі ён адказны за ўсё, што робіцца ў краіне, ягоныя паўнамоцтвы, якія не сніліся нават каралям і царам, прывучылі жыхароў Беларусі да аднаго ўстойлівага погляду: усё вырашае Аляксандр Рыгоравіч. А калі так, дык пра якія выбары тут можна весці гаворку, тым больш у мясцовыя Саветы, якія цалкам залежаць цяпер ад выканаўчай "вертыкалі". І таму няма ніякага сэнсу марнаваць час, вылучацца і спрабаваць нешта зрабіць.

Але калі такі падыход большай часткі насельніцтва яшчэ можна зразумець, дык асабіста мне не зразумелыя падыходы апазіцыйных палітычных сіл. Колькі было гаворкі пра тое, што апаненты Лукашэнкі пойдуць на гэтыя выбары разам, будуць аб'ядноўвацца і каардынаваць сваю дзейнасць. А што атрымалася на самай справе? Вось тыя даныя, што прывяла ўчора Лідзія Ярмошына. Вылучэнцаў ад палітычных партый усяго 1033, гэта толькі 4% ад усіх прэтэндэнтаў. Прычым у гэту колькасць уваходзяць і прадстаўнікі тых партый, якія вельмі лаяльна адносяцца да Лукашэнкі і яго палітыкі. А вось як спрацавалі тыя, хто ўжо даўно запісаўся ў апазіцыянеры (усе лічбы прывяла на прэс-канферэнцыі Лідзія Ярмошына): ЛДП — 329, ПКБ — 208, АГП — 130, БСДП (Народная Грамада) — 103, БНФ — 76... Пра астатнія і гаварыць не буду, бо што казаць пра партыю, якая вылучае на ўсю рэспубліку менш як дзесяць чалавек.

Зразумела, мае апаненты з боку апазіцыі будуць казаць пра тое, што ўлады ставілі ім палкі ў колы, што ім усяляк перашкаджалі, што сярод тых, хто вылучаецца шляхам збору подпісаў і ад працоўных калектываў, ёсць людзі, якія шчыра сімпатызуюць апазіцыі. Усё гэта так. Але ж...

Факты сведчаць аб адным і тым жа: апазіцыя не ідзе ў народ. А калі так, то на якую перамогу яна можа разлічваць?

**Уладзімір ГЛОД.**

**ШКОЛА**

## У старэйшых класах паменшае прадметаў



Рэформа агульнаадукацыйнай школы, распачатая чатыры гады таму, будзе працягвацца да 2010 года. Аб гэтым на нядаўняй сустрэчы з журналістамі паведаміў міністр адукацыі Пётр Брыгадзін.

Фінансавую падтрымку школе абяцае ўлада. Ужо ў гэтым годзе выдаткі на адукацыю будуць значна большыя, чым ў мінулым. "Аб'ём фінансавання ў 2003 годзе павялічаны на 150%, — удакладніў Пётр Брыгадзін. — Калі ў расходнай частцы бюджэту 2002 года на адукацыю закладзена каля 20%, то ў гэтым — 24%. Гэта ў 5 з паловай разоў больш, чым на абарону. Мы трацім больш за многія краіны, але гэтага недастаткова".

Таму ў сістэме адукацыі стала распаўсюджанай модная зараз практыка: пазабюджэтнае фінансаванне. Калі не хапае грошай дзяржаўных, няхай дапамагаюць бацькі. "У мінулым годзе мы змаглі прыцягнуць у нашу сферу 110 мільярдаў рублёў"— адзначыў міністр адукацыі.

Тым не менш па-ранейшаму да смешнага маленькай застаецца заработная плата настаўнікаў, яна нават не складае абяцаных Лукашэнкам падчас сваёй перадвыбарчай кампаніі 100 долараў. У мінулым месяцы сярэдні заробак настаўнікаў склаў усяго 180 тысяч беларускіх рублёў.

Як адзначыў Брыгадзін, ніякіх карэкціровак у праграме рэфармавання агульнаадукацыйнай школы Беларусі не будзе. І гэта нягледзячы на тое, што напрыканцы мінулага тыдня Аляксандр Лукашэнка выказаў заўвагі наконт таго, як ідзе гэтая рэформа. Лукашэнка крытыкаваў перагрузкі школьнікаў, новую сістэму адзнак і іншае.

"На 10% мы знізілі нагрузкі. Гэта зроблена дырэктыўным шляхам, — паведаміў Брыгадзін. — На 20% паменшылі змест вучэбных праграм. Безумоўна, патрабуецца перапрацоўка ўсіх падручнікаў і дапаможнікаў. Наступны крок — будзем рабіць значныя захады, каб паменшыць нагрузкі ў старэйшых класах агульнаадукацыйнай школы. Там увогуле гаворка ідзе пра тое, каб прыкладна напалову скараціць колькасць вучэбных дысцыплін. Не выключана, што да 2010 года старэйшыя ліцэйскія класы пяройдуць на профільнае навучанне: гуманітарнае, навуковае, тэхналагічнае".

Што тычыцца 10-бальнай сістэмы ацэнкі ведаў школьнікаў, спрэчкі вакол якой працягваюцца да гэтага часу, то ўрэшце Міністэрства адукацыі вызначылася, з якімі адзнакамі вучань можа прэтэндаваць на залаты медаль. Толькі з "9" і "10". "Многія кажуць, што трэба знізіць гэтыя патрабаванні, — адзначыў Пётр Брыгадзін. — Можа, і панізім. Але мы хацелі павысіць патрабаванні да медалістаў. Мы ацэньваем намаганні дзіцяці, вынікі яго вучобы. Але гэта не дае ніякіх ільгот пры паступленні ў ВНУ. У мінулым годзе 10% выпускнікоў мелі медалі. Гэта добра ці дрэнна? Спрэчнае пытанне. Я думаю, што ў гэтым годзе колькасць медалістаў зменшыцца".

**Марыя ЭЙСМАНТ.**
**Фота IREX/ProMedia.**

## Масштабные преобразования в сфере жилищно-коммунального хозяйства

*Сейчас квартиросъемщики, собственники жилых помещений, члены организации граждан-застройщиков производят обязательные ежемесячные отчисления на капитальный ремонт жилых домов в размере 50 процентов от суммы платы за техническое обслуживание жилых помещений. Эта сумма включается в расчет ежемесячной квартирной платы. В соответствии с постановлением №45 Совета министров размер указанных отчислений увеличивается вдвое, с 50 до 100 процентов.*

Постановлением также определено, что в жилых домах, где в собственности граждан и юридических лиц находится более 70 процентов квартир, нужно будет создать товарищества собственников. То есть эти дома нужно передать в собственность жильцов, зарегистрировать товарищество в качестве юридического лица, оформить документы на право пользования земельным участком и провести прочие организационные работы.

Министерству экономики и Комитету по земельным ресурсам, геодезии и картографии при Совмине поручено до 1 марта 2003 г. принять решение об освобождении создаваемых товариществ собственников от затрат, связанных с их государственной регистрацией, и об упрощении процедуры выдачи товариществам актов на право пользования земельным участком. Работа по созданию названных юридических лиц должна быть завершена в 2004 году.

**Агентство Владимира ГРЕВЦОВА.**

**ВІНШУЕМ!**

## Яны — лепшыя сябры «Народнай волі»

*Падведзены вынікі конкурсу «1 + ...», які быў аб'яўлены падчас падпіснай кампаніі.*

Лепш за ўсіх агітавалі за "Народную волю" наступныя нашы чытачы:

**ЯЦКЕВІЧ Уладзімір Антонавіч** (г.Полацк). Ён загітаваў 12 новых падпісчыкаў.

**КАЛЕСНІКАВА Алена Арташэсаўна** (г.Барысаў). Дзякуючы ёй у шэрагі чытачоў "Народнай волі" ўліліся 9 чалавек.

**РОГАЧ Іван Іванавіч** (г.п.Астравец Гродзенскай вобласці). Па яго рэкамендацыі на "Народную волю" падпісалася 6 жыхароў райцэнтра.

Рэдакцыя газеты лічыць пераможцамі конкурсу таксама **ПАНАШЧЫКА Мікалая** з Мінска і **ЗАБРАДЗЯНЦА Сяргея Іванавіча** з Баранавіч.

Шчыра віншуем Вас, шаноўныя сябры! Дзякуй Вам за ўвагу да "Народнай волі", за імкненне пашырыць яе чытацкую аўдыторыю. Разам з Вамі зробім усё для таго, каб яна была жаданай у кожнай хаце, у кожнай сям'і.

"НАРОДНАЯ ВОЛЯ" — ГАЗЕТА НАРОДНАЯ!

Як мы і абяцалі, пераможцы конкурсу атрымаюць суперарыгінальныя прызы. Якія? Пакуль гэта наш маленькі сакрэт, але ў бліжэйшы час мы аб гэтым паведамім са старонак газеты.

**Рэдакцыя газеты «Народная воля».**

## Згуба, альбо Чым закончыцца для беларусаў аб'яднанне з Расіяй паводле Пуціна

Што ж прынясуць нам, беларусам, дамоўленасці, дасягнутые падчас перамоў Лукашэнкі і Пуціна? Давайце паразважаем.

Прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін заявіў у Мінску, што прымаемыя рашэнні павінны рэальна павысіць якасць жыцця нашых грамадзян. А цяпер пазнаёмімся з бюджэтам саюзнай дзяржавы. СМІ паведамляюць, што ён зацверджаны ў суме 2 мільярды 438 мільёнаў расійскіх рублёў. Толькі 15 працэнтаў з гэтай сумы накіроўваецца на праграмы вытворчага прызначэння. Ільвіная ж доля сродкаў пойдзе на фінансаванне праваахоўнай дзейнасці і бяспекі саюзнай дзяржавы (37%), ваенна-тэхнічных праграм (11 працэнтаў), утрыманне органаў саюзнай дзяржавы (6 працэнтаў). У суме — больш за палову ўсіх сродкаў. Цікава, як праваахоўная дзейнасць і ваенна-тэхнічныя праграмы могуць "павысіць якасць жыцця грамадзян"?

Вядома, што немалыя сродкі ідуць на ўмацаванне заходняй мяжы Беларусі і саюзнай дзяржавы. І тут узнікае пытанне: "А навошта нам адгароджвацца ад Еўропы высокім плотам?". Вунь Польшча, Літва, уступаючы ў Еўрапейскі Саюз, збіраюцца адкрыць свае межы. Такім крокам яны сапраўды палепшаць якасць жыцця сваіх грамадзян. Чаму мы гэта не робім? Трэба Расіі ўмацоўваць усходнюю мяжу, няхай яны робяць гэта за нашай Оршай.

Нельга не звярнуць увагу на тое, што трэць сумы гэтага бюджэту выдзяляе Беларусь. Якая вялікая Расія і якая маленькая Беларусь, а вось сродкі на сумесныя праграмы выдзяляюцца не прапарцыянальна. Ці не лепей было б сваю трацiну, а гэта 824 мільёны расійскіх рублёў, ды напрамую накіраваць на развіццё айчыннай эканомікі?

Было заяўлена, што з сярэдзіны гэтага года наша прадпрыемства "Белтрансгаз" стане сумесным расійска-беларускім. Цяпер яно айчыннае і яго прыбытак паступае ў беларускую казну. А потым добрая частка заробленым гэтым калектывам сродкаў пойдзе ў "расійскую кішэню". Дык што тут добрага для беларусаў?

Прэзідэнты краін, звычайна, не вырашаюць падобных праблем, бо гэта не "царская справа". Але Пуцін праявіў асаблівую зацікаўленасць у адстойванні інтарэсаў расійскага "Газпрама", які даўно паклаў вока на "Белтрансгаз".

І самае непрыемнае — увядзенне ў Беларусі з 2005 года расійскага рубля. Уладзімір Пуцін вельмі настойліва прабіваў такое рашэнне і назваў яго "этапным момантам". Яно так і ёсць. Гэта сапраўды этапны, паваротны момант у расійска-беларускіх дачыненнях. Вось толькі для каго ён добры? Мяркую, для Расіі. А для Беларусі і асабіста Лукашэнкі ён можа стаць даволі змрочным. Да такой думкі падштурхоўваюць каментатары шэрагу ўплывовых выданняў. Так, расійская "Известия" адзначае, што валютнае пагадненне, калі яно будзе рэалізавана, паставіць перад Лукашэнкам даволі жорсткія і непрыемныя рамкі ў плане аб'яднання. Так характарызуе валютныя дамоўленасці і расійская газета "КомерсантЪ". "Комсомольская правда" цытуе аднаго з памочнікаў Пуціна, які заявіў: яго шэф разглядае саюзную дамову, як "маналіт з цэменту самай высокай маркі, пранізанай эканамічнай арматурай". Менавіта так моцна мяркуе Расія прывязаць да сябе эканамічнымі ланцугамі Беларусь.

Такое моцнае яднанне з усходняй суседкай не абяцае нам прагрэсу, бо многія расійскія прадпрыемствы ў такім жа цяжкім стане, як і беларускія. Гандаль з ёю дае вялікае адмоўнае сальда і кансервуе ўстарэлыя тэхналогіі. Беларусі варта было б паралельна развіваць больш цесныя стасункі з перадавымі заходнімі краінамі. Толькі адтуль мы можам атрымаць інвестыцыі і перадавыя тэхналогіі, якія паспрыяюць выпуску канкурэнтаздольнай прадукцыі.

Асноўным, важнейшым атрыбутам любой незалежнай дзяржавы з'яўляюцца ўласныя грошы. Вы дзе-небудзь бачылі краіну без сваёй валюты? Літва, Латвія, Польшча, Чэхія, Балгарыя, Украіна... Усе маюць і ўмацоўваюць нацыянальную валюту. А Беларусь разбурае яе.

Канешне, могуць сказаць: "А вось еўрапейскія краіны маюць агульную валюту еўра". Вось іменна, агульную, а не нямецкую марку ці французскі франк. Да таго ж трэба мець на ўвазе, што Еўрапейскі Саюз — даволі, як кажуць, прасунутае наперад блокавае ўтварэнне. Да агульнай валюты еўрапейцы ішлі не адзін дзесятак гадоў.

Не, не выпадкова Пуцін так цісне на Лукашэнку, каб той хутчэй уводзіў адзіную валюту. "Абдымкі" з расійскім рублём — гэта смяротныя абдымкі.

Карэспандэнт Бі-Бі-Сі зазначае, што хоць у парадку дня Вышэйшага Савета саюза было дзесяць пытанняў, інтрыга заключалася не ў іх, а ў тым, ці ўдасца Расіі завалодаць часткай газатранспартнай сістэмы Беларусі і ці будзе вырашана пытанне аб ўводзе тут расійскай валюты. Ёй удалося. Такім чынам Масква адхапіла салідны кавалак беларускага эканамічнага пірага, не аддаўшы ўзамен нічога.

Да гэтага варта дадаць пра захады, зробленыя ў накірунку стварэння адзінай эканамічнай прасторы, якая адкрые дзверы ў Беларусь расійскаму капіталу, які зможа скупіць "усё на корані". Бо ўласнаму бізнесу не далі развіцца.

Яшчэ адно цікавае рашэнне інтэгратараў: грашовае заахвочванне дзяржсакратара саюза Паўла Барадзіна. Падрабязнасці не паведамляюцца. Але вядома, што Беларусь запазычыла ў бюджэт саюза аж 1,4 мільярда расійскіх рублёў. Уладзімір Пуцін нават выказаў занепакоенасць наконт гэтага. А дзяржсакратара, які адказвае і за напаўненне бюджэту, заахвоцілі. Помніцца, калі яго затрымалі праваахоўныя органы Швейцарыі, былі унесены вялікі грашовы залог за вызваленне з турмы. Ці вернуты ён? Штосьці не чуваць. І вось табе, Павел Паўлыч, яшчэ прэмія! Як быццам няма жабракоў ні ў Расіі, ні ў Беларусі.

Можна сказаць, што з 2005 года, з моманту ўвядзення ў Беларусі расійскага рубля, амаль заканчваюцца прэзідэнцкія паўнамоцтвы прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі. Прэзідэнтам іншых краін не будзе вялікага сэнсу сустракацца з ім і аб нечым дамаўляцца, бо ў яго не будзе грошай і ён не зможа, без узгаднення з Масквой, падпісваць нейкія пагадненні. Пасада Аляксандра Рыгоравіча, напэўна, будзе нагадваць нешта сярэдняе паміж прэзідэнтам Беларусі і расійскім губернатарам.

Цяжка, вельмі цяжка зразумець, навошта яму такая будучыня? Вось што мяркуюць наконт гэтага сродкі масавай інфармацыі. Інтэрнетаўская расійская "Газета" піша, што Лукашэнка з дапамогай "саюзнага будаўніцтва хоча застацца пры ўладзе на трэці тэрмін". Бі-Бі-Сі спасылаецца на старшыню Аб'яднанай грамадзянскай партыі Беларусі Анатоля Лябедзьку, які заявіў расійскім СМІ, што прадметам гандлю з Расіяй з'яўляецца трэці тэрмін для беларускага прэзідэнта ў абмен на эканамічныя ўступкі.

Такой жа думкі прытрымліваецца і расійскі лідэр парламенцкай фракцыі СПС Барыс Нямцоў, які зазначыў, што ў Пуціна і Лукашэнкі розныя стратэгічныя інтарэсы. У першага — рэальная інтэграцыя і выхад у Еўропу, а ў другога — стаць "еўрапейскім Туркменбашы і дамагчыся трэцяга, чацвёртага і 120-га прэзідэнцкага тэрміну".

Дык што ж атрымліваецца? Беларусь павінна страчваць незалежнасць, здаваць Расіі свае лепшыя прадпрыемствы, пазбаўляцца эканамічнага суверэнітэту толькі дзеля таго, каб задаволіць амбіцыі аднаго чалавека?

**Алесь ДРАБЧУК.**

Народная Воля
23 СТУДЗЕНЯ 2003 г.

*Михаил МАРИНИЧ,*
*Чрезвычайный и Полномочный Посол Республики Беларусь*

# Прозрение

## белорусов должно наступить в этом году. Иначе погибнем

*Прошел очередной год "рыночного социализма" в Беларуси. Какими достижениями мы можем гордиться? Чего ждать от 2003 года?*

*Судя по новогоднему выступлению А.Лукашенко, главным достижением ушедшего года стало то, что не было войны. Власти гордятся пресловутой белорусской "стабильностью". Однако, вряд ли эта стабильность уже кого-то радует? Стабильность в постоянном и постепенном движении к нищете, банкротству? Стабильность в том, что мы каждый год ведем "битву за урожай", в том, что усиливается страх потерять последнее, в том, что даже нормальный мужчина не может прокормить семью и обеспечить будущее своих детей?*

*Кому нужна такая стабильность?*

### Тенденции в экономике...

Так чем же все-таки запомнился нам 2002 год, кроме этих мрачных тенденций стабильности?

Главной тенденцией года я бы назвал прагматизм со стороны Кремля в белорусско-российских отношениях: "мухам перестали подавать котлеты". Российский президент не такой терпеливый, как белорусский народ. Он не стал терпеть откровенный популизм белорусского руководства и перевел стрелки сотрудничества в реальную плоскость. И, правда, почему белорусский правитель должен рассуждать о дружбе братских народов, а российский ее обеспечивать в виде поставок дешевого газа и нефти и многомиллионного кредитования белорусской экономики? В 2002 году российская сторона ввела для Беларуси единые тарифы на энергоресурсы и единые железнодорожные тарифы. Однако белорусскую экономику эти меры сегодня не спасут по определению, а лишь отсрочат так необходимые реформы.

На самом деле проблемы с поставками российских энергоресурсов в Беларусь, экспорта наших товаров в Россию, двусторонних торгово-экономических отношений в целом — это проблемы одного порядка. Это не проблемы отношений между странами, а вскрывающиеся дыры белорусской экономики: наркотическая зависимость от дешевых сырьевых ресурсов, низкое качество белорусских товаров, изношенность основных фондов, нехватка оборотных средств, невыносимое бремя налогов, жесткое госрегулирование, неграмотная инвестиционная политика. Все это никак не может способствовать построению взаимовыгодного сотрудничества с государством, взявшим курс на рыночную экономику. Минская встреча Путина и Лукашенко — это лишний раз подтверила. Очевидно, что в союзе рыночного социализма и рыночной экономики социализм в очередной раз потерпит поражение.

Сегодня становится очевидным тот факт, что уже не удастся сохранить белорусскую промышленность в полном объеме — то, чем так гордились власти. К великому сожалению, большинство "лежачих" предприятий уже не поднять, даже если изменить экономическую политику. А тем более, не меняя ее. Этому даже не помогает введение российскими властями единых тарифов на энергоресурсы и единых железнодорожных тарифов. Иллюзией является попытка решить все проблемы карательным способом. "Зачистка" кадров, репрессивные меры, усиление госконтроля — это еще одна тенденция 2002 года.

Вспомним: 2002 год был объявлен годом либерализации белорусской экономики. Что сделано на этом пути? Венцом либерализационной политики стал декрет президента №29 о регистрации субъектов хозяйствования, принятый буквально в последние дни 2002 года. Либерализационным его назвать сложно: ни заявительного принципа регистрации, ни единого регистра предприятий как не было, так и нет.

Можно также поздравить предпринимателей с подготовкой в начале 2003 года еще одного подарка от главы государства, в виде проекта нового декрета, который, как всегда, еще больше усиливает "око государево". Даже Минторг, который давно перестал существовать как государственный институт у наших соседей, получает право проверять и запрещать.

Вместо нелегкого единого налога государственная "удавка" и контроль усиливаются. Такие жесткие меры властей бросают предпринимательскую среду в полное разорение. Все это ответ властей на прошедшие забастовки. Вот и вся декларация о либерализации. В этих условиях угнетенному предпринимательству остается искать собственный выход, публично отстаивая свои права на существование.

Все такие же благие намерения декларировались и о привлечении иностранных инвестиций. У всех на памяти скандалы с Балтикой, ИКЕА, Макдональдсом и другими менее известными компаниями. Можно поздравить правительство с первой в истории Беларуси не продажей, а сдачей Мозырского нефтеперерабатывающего завода. Кому нужен такой тендер, в котором принимала участие только одна компания? Что ж, как говорится, первый блин комом. И это понятно: нет государственной политики приватизации, базирующейся на законе.

В 2002 году властью декларировалось начало приватизации нефтехимического комплекса, и им было публично озвучено предложение общественной экспертизы приватизационных проектов. Итоги приватизации года равны нулю, а А.Лукашенко совсем не обязательно выполнять свои обещания. А зачем? В 2002 году декларировалась и поддержка предпринимательства. В итоге забастовки частных предпринимателей, сокращение числа малых и средних предприятий, их уход в теневую экономику. Да мало ли еще было благих деклараций?! Тот же экспорт среди приоритетов государственной политики, который не выдерживает конкуренции ни по цене, ни по качеству не только на западных рынках, но и в России.

Нулевой результат декларируемых целей — это еще одна тенденция 2002 года. А то, что "крайний" всегда найдется, — это уже не тенденция, а традиция. Думаю, что год Козы откроет в качестве "козла отпущения" нынешнее правительство. К сожалению, эти меры ситуацию не изменят. Мое предложение А.Лукашенко — не думать, как изменить конституцию и продлить свои полномочия, а в оставшийся срок попытаться исправить экономическую ситуацию и начать либерализацию экономики не на словах, а на деле.

### ...и в политике

"На западном фронте без перемен" — табличку с такой надписью можно повесить на здании МИД Беларуси. "Успех" операции по выдворению миссии ОБСЕ из Беларуси, думается, не решит нам всех проблем, а еще больше загонит ситуацию в тупик. Выйти из круга "изоляции" и пообщаться с коллегами из западных стран можно лишь выполнив четыре требования ОБСЕ и Совета Европы: демократические реформы, расширение полномочий и функций парламента, свобода СМИ, прозрачные выборы. Отсутствие перспектив улучшения ситуации — это тоже тенденция 2002 года: Беларусь даже не ратифицировала Соглашение стран СНГ о стандартах демократических выборов. О том, что на телевидении и в государственных СМИ не имеют слово те, чье мнение отличается от официальной позиции, и вспоминать не приходится. В прошлом году было закрыто несколько независимых печатных изданий, осуждены якобы за оскорбление президента известные в стране журналисты Николай Маркевич, Павел Можейко, Виктор Ивашкевич.

И, наконец, еще одна тенденция 2002 года — ускоряющееся снижение рейтинга главы государства. Поистине, терпение белорусской нации безгранично. Но даже у самой терпеливой нации рано или поздно терпение лопается. И этот момент, я считаю, уже не за горами.

И поэтому 2002 год — это еще одно приближение к тому, во что верит каждый из нас. Нет, он не бесполезный. Он потерянный для власти, чиновников, всех тех, кто отстаивает сегодняшний режим. Сегодня белорусское общество консолидируется, и консолидируется не "против", а "за". Не против Лукашенко, а за себя, за выживание, за достойную жизнь.

Вопрос перемен, это уже не вопрос: быть или не быть. Это вопрос: как скоро? Людям уже не безразлична своя судьба, свое будущее, растет молодое поколение тех, кому не все равно, как жить завтра. И это самая радостная тенденция 2002 года.



### 2003 год: перспективы

Как скоро улучшится жизнь? Так хочется сказать: в 2003 году. Но сначала, к сожалению, будет еще хуже. Да, еще хуже, чем было в минувшем году. В 2003 году правительство в очередной раз наступит на собственные грабли. Собственно сегодня очевидно, что механизма реализации поставленных целей у правительства нет. Да и сами цели выглядят абсолютно бессистемно. Исполнительная власть боится признать, что отрывочными мерами ситуацию не исправить, что существующая экономическая политика бесперспективна, что необходима системная реструктуризация экономики. Такого анализа в правительстве нет даже не потому, что не хватает кадров. Скорее, те, кто остался, осознают бессмысленность констатации очевидного при собственном бессилии изменить ситуацию и необходимости неукоснительно соблюдать неподдающиеся экономической логике директивы. Происходит очередная декларация намерений. При этом, все закрывают глаза на то, что не будет ни содействия развитию малого и среднего бизнеса, ни системной приватизации, не говоря уже о "массовой", ни новой инвестиционной политики. Все находятся в ожидании перемен, которые кто-то опять же навяжет сверху.

Находясь в таком ожидании, правительству все-таки придется столкнуться с нарастающими, как "снежный ком", трудностями и необходимостью решать новые проблемы.

В 2003 году нас ожидает рост безработицы — явление достаточно новое для Беларуси. Наступит он не от того, что начата реструктуризация промышленности, а как логический тупик бессмысленной гонки за высокими темпами роста при неэффективности реального сектора экономики. Выживать же как-то надо при увеличении доли убыточных предприятий, росте объемов задолженностей и неплатежей, снижении рентабельности и платежеспособности. А то, что прирост ВВП будет, сомневаться не приходится: в системе "рыночного социализма" все эти факторы не влияют на объем производства, а конкурентоспособность продукции является вторичной. Производить — не продавать. Конечно, прирост ВВП будет не 6%: то, что правительство "рисует" такие цифры, свидетельствует о том, что "угодничество" совершенно заменило профессионализм. Если не можем прогнозировать, а только лишь планируем желаемое, то хотя бы нужно соизмерять свои возможности. А вот куда пойдут безработные, которым нечем платить по многократно увеличивающимся коммунальным и транспортным тарифам? Думается, что не в службы занятости и не в местные исполкомы регистрировать частные предприятия. Торговцев на рынках скоро будет больше, чем покупателей.

В 2003 году приватизация ограничится продажей одного-двух крупных предприятий. Не больше. Этого хватит, чтобы закрыть дырки в бюджете. Других целей перед продажей госсобственности правительство сегодня не ставит. Думаю, что будет акционирован Белтрансгаз. Опять же причины совсем не экономические. Лукашенко будет вынужден показывать хоть какие-то шаги в обмен на ...уже не поддержку, а надежду на поддержку. Но вот ее то, хочется верить, не будет. Прагматизм в отношениях с Россией будет нарастать. Это уже не только требования платить по счетам, возвращать долги, торговать по рыночным принципам, активизировать приватизацию. Российский прагматизм перейдет с экономического поля на политическое. А это значит, что будут поддержаны новые лидеры. И не один. Одного уже достаточно. Главное, что публичный диалог будет вестись не с одним человеком, а с обществом в целом. А ему, обществу, долго объяснять уже не придется. Люди, брошенные на улицы, для власти страшнее всякой изоляции. И не помогут стройные ряды вмонтированных в "вертикаль" профсоюзов и "новых" комсомольцев. Единственное, на что будет способна власть — ужесточение режима. Нас, не исключаю, ожидают закрытие газет, суды над журналистами и бизнесменами, запугивание общественных лидеров. Под флагом жесткого административного прессинга пройдут выборы в местные Советы. Есть информация, что на этом фоне А.Лукашенко прорабатывает вопрос о проведении референдума о продлении своих полномочий. При действующем Избирательном кодексе и хорошо изученном властями механизме фальсификаций результат референдума можно вписывать в протоколы хоть сегодня. Но не дай Бог нам повторить урок 1996 года!!!

Безусловно, в таком случае позиция Запада останется неизменной: не будут признаны ни итоги выборов в местные Советы, ни итоги возможного референдума.

Но позиция Запада, похоже, мало интересует белорусские власти. Они привыкли жить в режиме самоизоляции. Гораздо важнее позиция России. Однако Россия, если и не высказывает свое отношение к продлению срока Лукашенко открыто, то очень внятно намекает на последствия такого решения. Российская политическая элита все больше сомневается в возможности продления политической карьеры Лукашенко в качестве лидера независимого государства.

Позиция наших партнеров, и России и Запада, весьма существенна, однако не она решит исход политических и социально-экономических процессов в Беларуси. Решить свое будущее можем только мы сами. Главное — это НАША позиция. Наша с вами. Позиция тех, с кем власти уже долгие годы привыкли не считаться, легко справляясь с манипуляциями по фальсификации итогов различных голосований. Оставшийся без работы средний класс, обманутые предприниматели, униженная интеллигенция, потерявшие веру чиновники, разочаровавшаяся молодежь, да просто люди, которые, возможно, не стоят в рядах оппозиции, но устали так жить — вот те, кто скажет "нет" продолжению обмана властью собственного народа.

Мой прогноз на 2003 год: думаю, этот год станет годом прозрения. Белорусское общество поймет, что не будет никаких экономических реформ и улучшения социальных условий жизни без смены политического курса. Сегодня важно понимание того, что именно политическая реформа — залог будущих преобразований в жизни каждого из нас. Поэтому, несмотря ни на что, перспективы у 2003 года положительные.

**ПУЛЬС**

## У Брэсце затрыманы рэкецiры

Супрацоўнiкамi крымiнальнага вышуку Маскоўскага райаддзела ўнутраных спраў Брэста сумесна з АМАП затрыманы тры мясцовыя жыхары, якiя вымагалi ў мясцовага прадпрымальнiка, уладальнiка камп'ютэрнага салона, 1 тысячу долараў ЗША. Узрост вымагальнiкаў — 25—27 гадоў. Усе яны раней судзiмыя.

У канцы мiнулага тыдня бандыты вывезлi прадпрымальнiка ў гаражны масiў i патрабавалi ад яго грошы — аднаразовы "ўзнос" памерам 1 тысячу долараў i далей штомесячныя "плацяжы" ў суме 500 долараў. У адваротным выпадку злачынцы пагражалi расправiцца з яго сям'ёй. Пры гэтым рэкецiры не абмежавалiся толькi пагрозамi i прастрэлiлi прадпрымальнiку нагу.

Пацярпелы звярнуўся ў мiлiцыю. У вынiку ён атрымаў пазначаныя грошы i згадзiўся сустрэцца з вымагальнiкамi i заплацiць iм. Усе адбылося ў двары дома па бульвары Касманаўтаў у Брэсце, дзе жыве прадпрымальнiк. Атрымаўшы ад яго грошы, двое вымагальнiкаў спусканiся ўнiз, дзе iх чакаў трэцi саўдзельнiк у аўтамабiлi "Жыгулi". Нягледзячы на аказанае супрацiўленне, бандыты былi затрыманыя.

**Валянцiна КАЗЛОВIЧ.**

## Дэпутат патрабуе спынiць вулiчныя разбоi ў Жодзiне

Праваахоўныя органы Жодзiна затрымалi групу вучняў старэйшых класаў адной з мясцовых школ. Як патлумачыў БелаПАН начальнiк гарадскога аддзела мiлiцыi Мiкалай Кiрык, затрыманыя падазраюцца ў забойстве жыхара Жодзiна, здзейсненым у студзенi 2002 года.

Забiты быў бацькам вучанiцы той жа школы. Паводле адной з версiй, ён паскардзiўся школьнай адмiнiстрацыi на паводзiны падлеткаў, пасля таго як тыя выбухам петардаў пашкодзiлi палiто яго дачкi. Праз некалькi дзён мужчыну знайшлi на вулiцы мёртвым з чэрапнамазгавой траўмай. Мерай затрымання, улiчваючы цяжкасць учыненага, абрана ўзяцце пад варту. Зараз падлеткi знаходзяцца ў iзалятары часовага ўтрымання пры Жодзiнскiм ГАУС. Як паведамiў Мiкалай Кiрык, матэрыялы папярэдняга дазнання перададзены ўжо ў гарадскую пракуратуру.

Тым часам дэпутат Жодзiнскага гарсавета Аляксандр Ваўчанiн накiраваў на iмя старшынi Жодзiнскага гарвыканкама Валерыя Кашэўскага запыт. У iм утрымлiваецца патрабаванне спынiць вулiчныя разбоi ў горадзе, з-за якiх жыхары 60-тысячнага Жодзiна баяцца выходзiць з дому з наступленнем цемры. Паводле звестак Ваўчанiна, толькi на працягу першага тыдня гэтага года невядомыя злачынцы забiлi адну жанчыну, адну — абрабавалi, цяжка паранiлi 18-гадовага хлопца i збiлi да страсення мазгоў мужчыну. Пачатак другога тыдня студзеня быў адзначаны апаганьваннем 27 магiл на цэнтральных могiлках Жодзiна.

У запыце Аляксандр Ваўчанiн заклiкае кiраўнiка гарадской вертыкалi адказаць на пастаўленае патрабаванне, прычым зрабiць гэта адкрыта, праз мясцовую прэсу.

**Алесь СЕРГIЕВIЧ.**

## Слуцкiя паясы вернуцца ў Беларусь?

Беларусь i Расiя могуць знайсцi "разумныя шляхi" вырашэння такога "асаблiва адчувальнага" для дзвюх дзяржаў пытання, як вяртанне гiсторыка-культурных каштоўнасцей. Пра гэта на прэс-канферэнцыi ў Мiнску паведамiў мiнiстр культуры Расii Мiхаiл Швыдкой.

Тым не менш, паводле яго слоў, пасля распаду СССР статус-кво для захавання гiсторыка-культурных каштоўнасцей замацаваны ў той краiне, у якой яны на той час знаходзiлiся. М.Швыдкой паведамiў, што цяпер у Расii налiчваецца звыш 150 вядомых слуцкiх паясоў, якiя былi куплены заснавальнiкам Трацьцякоўскай галерэi ў канцы XIX стагоддзя i набылi вядомасць як экспанаты гэтага знакамiтага музея. У Беларусi iх захавалiся адзiнкi.

## Трацьцякоўская галерэя прыедзе ў Мiнск

У 2003 годзе ў Нацыянальным мастацкiм музеi Беларусi пройдзе выстава жывапiсу з калекцыi Трацьцякоўскай галерэi (Масква).

Як паведамiў журналiстам мiнiстр культуры Беларусi Леанiд Гуляка, "фiнансавыя складаючыя гэтага праекта няпростыя": сродкi выдзяляюць Трацьцякоўская галерэя, мiнiстэрствы культуры дзвюх краiн, плануецца прыцягненне спонсараў.

Мiнiстр паведамiў, што неабходна знайсцi "30 тысяч умоўных адзiнак" для выплаты страхоўкi, што з'яўляецца абавязковай умовай Трацьцякоўскай галерэi. Канкрэтная дата пачатку выставы пакуль не вызначана, але ўжо вядома, што яна будзе доўжыцца два з паловай месяцы.

**Юлiя ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

## Каб не спазнiцца з дапамогай

Напярэдаднi 2003 года Вiцебскi гарадскi Савет дэпутатаў i гарвыканкам прынялi мясцовую сацыяльную праграму "Дапамажы своечасова!", якая заклiкана падтрымаць фiнансамi дзейнасць у горадзе камiтэтаў Беларускага Чырвонага Крыжа. На выкананне праграмы з бюджэту выдаткавана 17,6 мiльёна рублёў.

Амаль уся сума будзе накiравана на аплату працы сёстраў мiласэрнасцi, якiя ў штаце чатырох цэнтраў медыка-сацыяльнай дапамогi Чырвонага Крыжа. Сем сёстраў абслугоўваюць дома iнвалiдаў, састарэлых i нямоглых.

За мiнулы год такая дапамога была аказана 36-i жыхарам горада — у асноўным — невылечна хворым i памiраючым. Кожная сястра мiласэрнасцi робiць па 7 наведванняў за дзень. Нагрузка вялiкая, калi ўлiчваць, што пацыенты, як правiла, не могуць хадзiць, а некаторыя пастаянна знаходзяцца памiж смерцю i жыццём. А зарплата сястры сцiплая: усяго 1,5 мiльёна рублёў у пералiку на год, у той час, як утрыманне аднаго хворага ў доме-iнтэрнаце для iнвалiдаў i састарэлых абыходзiцца ў 2 мiльёны.

**Сяргей БУТКЕВIЧ.**

**РЭГIЁН**

## Скарачэнне рабочых

У лiку 11 рэспублiканскiх унiтарных прадпрыемстваў у склад сталiчнага ВА "Гарызонт", пераўтворанага ў адкрытае акцыянернае таварыства, увайшоў i завод радыёкампанентаў "Белiт" з Пастаў. Гэта рэарганiзацыя супала з адкрыццём у райцэнтры, дзе ёсць фiрменны магазiн галаўнога прадпрыемства, i сервiснага цэнтра абслугоўвання тэлевiзараў маркi "Гарызонт", якiх за год удалося прадаць больш як 300 штук.

Сваю згоду на акцыянiраванне пастаўчане далi ва ўмовах вастрэйшай канкурэнцыi на рынку радыёкампанентаў i недахопу сродкаў на тэхпераўзбраенне. Пакуль гэты завод яшчэ трымаецца, але неўзабаве з нагоды скарачэння штатаў тут звольняць яшчэ 50 рабочых i служачых.

## Ад разбурэння да веры

Не забылiся яшчэ старажылы, як пасля вайны ўлады прымушалi калгасы разбураць ацалелыя храмы або размяшчаць там склады цi зернясховiшчы.

Не прайшло i паўстагоддзя, як у лiку самых ганаровых гасцей на асвячэнне новага касцёла ў вёсцы Пагошча Браслаўскага раёна быў запрошаны старшыня калгаса "Маяк" Раман Шукель.

У гаспадарцы, дзе працуюць больш як 500 работнiкаў, ёсць i свой цэх па вырабе цэглы. Летась гэта падсобная вытворчасць прынесла калгасу 4 мiльёны рублёў прыбытку. Мiнi-завод выдзелiў на завяршэнне работ па ўзвядзеннi новага касцёла 80 тысяч штук цэглы. Не без падстаў разлiчваюць у калгасе, што з дапамогай храма ў ваколiцах палепшацца мiкраклiмат i душэўны настрой людзей.

## Мiласэрнасць без гранiц

Акрамя чарговай партыi медыкаментаў i медабсталявання падчас свайго другога наведвання Мiёрскага раёна амерыканец Глен Пiрсан прывёз i незвычайны груз.

Калi да вылету ў Беларусь у мiнулым пратэстанцкага святара заставалiся лiчаныя днi, з iм звязалася мэр горада Дзiсны Вольга Мароз i папрасiла дапамагчы мясцовай жыхарцы, якой пасля аперацыi былi патрэбны пратэзы для грудзей. За акiянам гаспадыня спецмагазiна, дазнаўшыся пра бяду невядомай беларускай жанчыны, за дарагую рэч зусiм не ўзяла грошай i напiсала пiсьмо з пажаданнямi хутчэйшага выздараўлення.

**Уладзiмiр ШЫК.**

## Бабруйская мэбля падабаецца немцам

ЗАТ "Бабруйскмэбля" атрымала заказ ад адной з гандлёвых фiрм ФРГ на суму 200 тысяч еўра.

Узоры гасцёўнi корпуснай мэблi з бярозы былi зроблены па нямецкiх чарцяжах i адпраўлены ў Германiю. Пасля вывучэння ўзораў прадстаўнiкамi нямецкай фiрмы падпiсаны дагавор аб размяшчэннi заказу на ЗАТ "Бабруйскмэбля". Камплект гэтай мэблi складаецца з 12 найменняў, куды ўваходзяць розныя шафы, камоды, абедзенныя сталы i iншыя вырабы. ЗАТ "Бабруйскмэбля" экспартуе сваю прадукцыю ў Германiю, Францыю, Нiдэрланды, Расiю i iншыя краiны далёкага i блiзкага замежжа.

**Генадзь ШАРЫПКIН.**

## БАТЭ выйшла ў чвэрцьфiнал

У Маскве праходзiць адзiнаццаты Кубак чэмпiёнаў Садружнасцi па футболе. На гэтым турнiры Беларусь прадстаўляе мiнулагоднi чэмпiён краiны — барысаўскi БАТЭ.

На папярэднiм этапе спаборнiцтваў беларуская каманда трапiла ў групу В, дзе яе сапернiкамi былi латвiйскi "Сконта", армянскi "Пюнiк", а таксама таджыкская каманда "Рэгар-Тадаз".

Барысаўчане паспяхова пераадолелi групавы этап. Яны перамаглi "Рэгар-Тадаз" з лiкам 2:0, а два наступныя паядынкi завяршылi ўнiчыю, з аднолькавым лiкам 1:1. Такiм чынам, набраўшы пяць ачкоў, беларусы занялi ў сваёй групе другое месца i выйшлi ў чвэрцьфiнал Кубка чэмпiёнаў Садружнасцi-2003, дзе ўчора ўвечары гулялi з чэмпiёнам Расii — маскоўскiм "Лакаматывам".

**Вiталь ГАРБУЗАЎ.**

# На них и шапки не горят

*Ни публика, ни пресса не обратили должного внимания на то, что в Беларуси накануне Нового года правительство вознамерилось поставить крест на так называемой "народной приватизации", которой так гордилось руководство страны, не уставая повторять, что у нас она не грабительская. Не "прихватизаторская", одним словом.*

**Константин СКУРАТОВИЧ**

И, как оказалось, на самом деле так оно было: потому что это "не" настолько емко характеризует участие народа в дележке казенного, то есть приобретенного на его денежки имущества, что его следует охарактеризовать, как неучастие.

Для доказательства этого тезиса возвратимся к истории вопроса, вспомним, как все начиналось. Для того чтобы оградить народ от "прихватизаторов", которые могли скупить ваучеры у доверчивых белорусов по искусственно заниженным ценам, их сделали именными, процедуру продажи предельно усложнили. Поэтому белорус, в отличие от россиянина, не мог продать свой ваучер скупщику по цене бутылки водки. Но он мог обменять его на акции в частном инвестиционном фонде или на акции госпредприятий, список которых вывешивался в учреждениях "Беларусбанка". Считалось, что каждый чек дает право на получение части госсобственности, эквивалентной четырем долларам.

Многие поверили, но правы оказались те, кто хотел продать чеки сейчас и за деньги, в крайнем случае обменять на водку — тоже ведь деньги. А у государства, как всегда, денег не было, а для продажи оно предложило акции захудалых предприятий, счета которых имели цифры только в графе убытки. Поэтому и дивиденды от них никакие получить было невозможно. А на лакомые куски, которые могли приносить прибыль, государство



наложило, что называется, лапу и до сих пор облизывает, поедая мед вместе с пчелами. От этого даже самые медоносные "ульи" — одни раньше, другие позже — пришли в полный упадок. Так что и приватизировать уже вроде бы и нечего.

Наблюдая все это, значительная часть граждан вообще отказалась получать такие государственные ценные бумаги, часть купила акции и живет в ожидании дивидендов, а остальные, выжидая, когда на рынке появится что-нибудь стоящее, свои чеки никуда не вложили. Как подсчитали эксперты, этой последней категории государство задолжало около 350 миллионов долларов. Сумма не Бог весть какая, но, оценив финансовые возможности, правительство разработало поправки в Закон, которые дезавуируют прежние гарантии денежной компенсации тем, кто не сможет вложить свои чеки в установленные для их обращения сроки.

Понятно, что это пока только намерение. Но никаких препятствий для его реализации не наблюдается. Обманутые держатели чеков настолько безразличны к происходящему, насколько безразличны и политические партии, которые никак не отреагировали на это обстоятельство и даже не попробовали разъяснить народу, что его просто-напросто обокрали. А на тех, кто руководит, известно, шапки не горят. Поэтому поправки будут узаконены послушным парламентом и подписаны "народным" президентом. А значит, и этот обман не будет последним.

Между тем приватизация идет, а вместе с ней должны течь и денежки в казну. Ведь от продажи белорусской доли "Славнефти" было получено 207 миллионов долларов. Интересно бы получить внятный ответ на вопрос, кто их получил и на что израсходовал. Тем более, что никаких выгод от этого народ не имеет. Наоборот, в преддверии зимы были резко повышены тарифы на оплату электроэнергии и газа. И сказано было предельно цинично: не можешь платить — замерзай.

Помимо чековой, в Беларуси существовала и еще одна форма "народной" приватизации, благодаря которой работники акционируемых госпредприятий имели возможности приобретать его акции на льготных условиях. На первом этапе такая практика была широко распространена, хотя и применялась в основном на мелких промышленных и сервисных предприятиях. Но когда речь зашла о приватизации нефтехимического комплекса, власть заявила, что данные объекты должны продаваться только за деньги.

Отныне государство само проводит инвентаризацию и решает, что и кому продать, что отдать даром, а что забрать себе. Так, акционированные, то есть прошедшие предпродажную подготовку, "Нафтан", "Полимир", "Белшина", "Азот" и гродненское "Химволокно" свои акции так и не выставили. То есть правительство сделало первый шаг и споткнулось. Потому что, во-первых, хочет получить за них приличные деньги, которых нет ни у одной из отечественных компаний. Такие деньги есть у российских олигархов, но, допустив их к пирогу, официальный Минск утрачивает и контроль за этими стратегическими предприятиями. Кроме того, предприятия нефтехима изношены, работают они с убытком. И поэтому стоят гораздо меньше, чем просят за них белорусы.

Состояние других промышленных объектов нисколько не лучше. Поэтому у реального инвестора, независимо от страны и источника происхождения капитала, интерес к участию в приватизации белорусской промышлености может быть только избирательным. Но понятно, что продажа таких предприятий — дело хлопотливое и требующее времени. А деньги нужны сейчас. Отсюда и озвученный недавно А. Лукашенко интерес к "наведению порядка" посредством восстановления госмонополии, а конкретней, управления делами президента, над завозом в Беларусь и переработкой рыбной продукции. Во-первых, это коммерция — сфера, способная приносить "быстрые" деньги, во-вторых, возможность устанавливать, как писали советские учебники политэкономии, монопольно высокие цены и получать сверхприбыль.

Популистская риторика насчет того, что устранение посредников, наживающихся на народном горе, не должна вводить в заблуждение. Речь идет именно о свертывании рыночных отношений в одном из значимых сегментов внешней и внутренней торговли.

И, как было заявлено, этот шаг станет только первым в процессе "наведения порядка", по сути, национализации всех закупок так называемого критического импорта — продукции, которая или не производится в Беларуси, или производится в недостаточном количестве. А это поистине необъятный ассортимент — от сахара и подсолнечного масла до ананасов и коньяка "Хенесси". Для народа.

Все это звучит, как анекдот, выглядит, как нелепица, но полностью отражает реалии белорусской политики и экономики. Служить они должны только продолжению политической жизни одного всем известного человека.

